ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

28 студзеня 1994 г. № 4 (3726) Кошт 30 руб.

## «ЁСЦЬ ЖА ЯШЧЭ Ў МЯНЕ ВЕРА...»

(ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ)

Спектакль закончаны. Задаволеныя сабою акцёры пасмейваюцца, віншуюць адзін аднаго, паціскаюць рукі, ляскаюць у ладкі. Усё прайшло па сцэнарыі — гладка і без накладак. Не ўтойвае радасці і рэжысёр, ён жа сцэнарыст і выканаўца адной з галоўных роляў: перамога поўная. Ён і не чакаў, што ягоны апанент прайграе гэтак бяздарна і лёгка. Зрэшты, што яму было рабіць, калі яшчэ да пачатку спектакля ўсё было ясна — пралічана і расписана да дробязей. Рэжысёр пакуль не думае пра заўтра. Ён дабіўся сваёй мэты і цяпер ніхто і нішто не будзе перашкаджаць яму кіраваць тэатрам абсурду, ставіць у ім любыя п'есы. Ён пакуль не думае, што заўтра яму ўжо не будзе на каго спісваць свае пралікі, непрафесійнасць, недальнабачнасць. Не думае ён і пра гледачоў. А што думаць пра бязвольных, памяркоўных людзей, якія гатовы верыць любому прыгожаму абяцанню і не хочуць думаць ні пра што, акрамя свайго страўніка...

Што ж, няхай парадуецца сваёй перамозе. Але гэтая перамога — пірава. Яна раскрые, нарэшце, вочы народу, дазволіць яму агледзецца і ўбачыць, хто ім кіруе і як, хто вінаваты ў ягоных бедах і нягодах. І тады ўжо нішто не спыніць ягонае імкненне да волі... Мы верым у гэта. Незалежнасць дасталася нам лёгка. Прыйшла сама. Але так і засталася госцяй у роднай хаце. Не змаглі мы яе прывецціць па-чалавечы. Ці ж дазволім цяпер розным прыхадням і янычарам выгнаць яе? Верым, што не. Верым у мудрасць народа, верым у ягоны інстынкт самазахавання, які павінен прачнуцца, верым у лепшую долю. Як заўсёды, у змрочныя часы хочацца звярнуцца па параду да нацыянальнага прарока — Янкі Купалы. У далёкім 1926 годзе ён напісаў верш «Ёсць жа яшчэ...», які праслаўлугы верай у сябе і ў цябе, няшчасны народзе:

Ёсць жа яшчэ ў мяне сіла
Крыўдзе не дацца, змагацца,
Над спячых продкаў магілай
Вольна маланкай мігацца.

Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца,
Поўнае шчырых жаданняў,
Якое перш разарвецца,
Чымся любіць перастане.

Ёсць жа яшчэ ў мяне песень,
Поўных надзеі, жыцця, —
Як бы ні быў ім свет цесен,
Вырвуцца ў свет з небыцця.

Ёсць жа яшчэ ў мяне вера
У вольны мой родны народ,
Што — у патрэбе — з сякерай
Выйдзе за волю ў паход!

Ёсць жа яшчэ... Ну, а людзі?
Сябры-суседзі тут, там?
Вы — непадкупныя суддзі,
Што ж яшчэ хочацца вам?!

Будзьма ж дастойнымі сынамі і дочкамі сваёй Бацькаўшчыны!



Гэты артыст бліскуча мог бы вызначыцца і на самай прэстыжнай сцэне расійскай правінцыі. Яго мог бы заангажаваць і сталічны тэатр хоць на Маскве-рацэ, хоць на Няве. Ён маляўніча і па-акцёрску сакавіта малюе незвычайны чалавечы характар у вельмі звычайнай па вонкавых адзнаках, нават у дэманстратыўна немудрагелістай асобе. Пэўная адметнасць рускага нораву выдатна праяўляецца ў тым, што робіць Павел Кармунін з ролямі ў п'есах Гогаля, Астроўскага, Чэхава, Горкага...

Мог бы — у Казані ці Разані, у Маскве або Піцеры, а вось трыццаць гадоў запар служыць любімай справе на купалаўскіх падмостках. Тут ён стварыў самыя яркія сцэнічныя партрэты ў сваёй даволі вялікай галерэі акцёрскіх работ. Тут яму давялося адчуць і потым старанна, па-вучнёўску пераадольваючы цяжкасці, зразумелыя пры пераходзе на іншую мову, вымаўляць па-беларуску самыя запаветныя для свайго сённяшняга героя словы. І па-мастакоўску даследаваць, паглыбляцца, увасабляць характар беларускага мужыка — ад Лявона Зябліка і Сцяпана Крыніцкага да Антона Кроплі або Чарнушкі... Але, П. Кармунін тое-сёе і пераймаў, ён вучыўся на класічных узорах беларускіх акцёраў Г. Глебава і У. Дзядзюшкі. І ганарыцца тым, што мае права лічыць сябе прадаўжальнікам якраз іхніх традыцый у артыстычным мастацтве Беларусі.

У мяне нешта гучыць усё гэта занадта ўзнёсла. Узнёсласць жа — зусім чужая інтанацыя ў тэатральнай палітры гэтага сціплага чалавека. Ён прываблівае глядзельную залу чароўнай шчырасцю ў душэўнай дынаміцы свайго героя. Сумленных і высакародных парыванняў альбо нізкіх і ганебных — тых, што прадугледжаны прыродай тае асобы, якую называюць на падмостках «дзейная». Яго персанажы дзейнічаюць у промнях рампы. І глыбока перажываюць свой лёс. Бо П. Кармунін аддае сцэне жыццё...

— Інакш нельга, браце, — казаў ён мне надоечы. — Мне ж шчасціць выходзіць на такую сцэну... з такімі артыстамі... з такімі актрысамі... Ведаеш, наш любімы купалаўскі мае надзвычайную аўру... таямніча-чароўны павеў такі... Нельга тут хлусіць ні словам, ні рухам, ні позіркам, ні ўздыхам. Ну грэх вялікі — пнуцца як жаба на купіну і выраблаць акцёрскія выкрутасы!..

Сёння яго, хворага на вочы, выведуць на сцэну. Ён будзе старым бацькам Аўдзея. І памоліцца Богу, як гэта прадугледзеў У. Бутрамееў у п'есе «Крык на хутары». Памоліцца... Ды не толькі таму, што так яму дыктуе тэкст. Мой сябра Павел Кармунін мо і развітваецца са сцэнай у дзень свайго 75-годдзя. У асяроддзі партнёраў і калег. Пад удзячныя воплескі залы. Беларускі артыст. Народны...

**Барыс БУР'ЯН**

# ШКОЛА ДЗЁН

***Вядома: хто не стварае, а толькі спажывае створанае іншымі. рана ці позна ператвараецца ў разбуральніка. Разбурыўшы асяроддзе, пачынае знішчаць самога сябе. Так і не здолеўшы за столькі гадоў стаць карысным для Беларусі, Вярхоўны Савет і сёння спакойна назірае, як разбураецца наша эканоміка, раскрадаецца і распрадаецца дзяржава. Сімптом самазнішчэння — замах наменклатурнай большасці ВС на кіраўнікоў так званых сілавых міністэрстваў, КДБ і МУС. Незалежна ад эмацыйнай афарбоўкі, якую маюць гэтыя абрэвіятуры яшчэ з бальшавіцкіх часоў, служба дзяржаўнай бяспекі і міліцыя — адзін з гарантаў спакою і парадку ў краіне, зрэшты, гарант існавання самога Вярхоўнага Савета. Раскол у КДБ і МУС, справакаваны Вярхоўным Саветам, пагражае стабільнасці ў грамадстве, набліжае нас да новых выпрабаванняў.***

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Пасля таго, як тры дні запар /мабыць, іншай справы ў Вярхоўнага Савета няма/ у авальнай зале Дома ўрада дэпутаты за зачыненымі дзвярамі абмяркоўвалі факт выдачы Жамойці двух жамойцкіх грамадзян, якіх улады суседняй краіны лічаць дзяржаўнымі злачынцамі, на прэс-канферэнцыі апазіцыі БНФ лідэр Фронту Зянон Пазняк назваў спробу зняцця з пасад міністра ўнутраных спраў, старшыні КДБ і Старшыні Вярхоўнага Савета звяном у плане стварэння на Беларусі аўтарытарнага рэжыму па прыкладзе Узбекістана. Спачатку адстаўка названых асоб, прызначэнне старшынёю парламента В. Кузняцова, той паруліцца, каб былі прыняты папраўкі ў Канстытуцыю, якія ўводзілі б пасаду прэзідэнта, роспуск Вярхоўнага Савета, далей — прэзідэнцкія выбары пад кантролем урада. Першае, што зробіць абраны такім чынам прэзідэнт РБ ад наменклатуры, — забароніць няўгодныя партыі і пазакрывае няўгодныя газеты, справакуе далейшае абвастрэнне эканамічнага і палітычнага крызісу ў Беларускай дзяржаве. І нарэшце — абвесціць адзіным выйсцем з крызісу далучэнне да Расіі ў якасці суб'екта канфедэрацыі альбо федэрацыі /ці не ўсё роўна, як назваць Мінскую губерню РФ?/. Зразумела ж, усё гэта «для выратавання суверэнітэту Беларусі».

Шэф КДБ і міністр унутраных спраў адпраўлены ў адстаўку, пазбаўлены пасады Шушкевіч. Працэс пайшоў? Пакуль што Пазняк у палітычных прагнозах не памыляўся...

## АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ

Расійскага прэм'ера Чарнамырдзіна чакалі ў Мінску для падпісання канчатковых дакументаў па «аб'яднанні» грашовых сістэм. 21 студзеня, потым — 29 студзеня, цяпер гаворка ідзе аб першай дэкадзе лютага. Відаць, не настолькі моцна стаіць на нагах сама Расія, каб, карыстаючыся выразам нашага прэм'ера, «узяць за руку Беларусь»...

## ІМЯНІНЫ ТЫДНЯ

25 студзеня споўнілася 56 год з дня нараджэння Уладзіміра Высоцкага /1938—1980/. Хоць дата і не круглая, «Астанкіна» і тэлеканал «Расія» адзначылі гадавіну спецыяльнымі праграмамі, прысвечанымі барду.

**«И мой корабль без меня уйдет —**
**На нем, должно быть, люди выше сортом.**
**Вперед смотрящий смотрит лишь вперед —**
**Не видит он, что человек за бортом.**

**Я вижу — мимо суда проплывают,**
**Ждет их приветливый порт, —**
**Мало ли кто выпадает**
**С главной дороги за борт!»**

## СПАЛОХ ТЫДНЯ

Як паведамілі сродкі масавай інфармацыі, на Ігналінскай АЭС /Жамойць, на мяжы з Беларуссю/ з прычыны аварыі спынены першы блок. Рамонт планавалася здзейсніць за 4—5 дзён, і 26 зноў уключыць энергаблок. Пасля чарнобыльскай катастрофы грамадскасць Жамойці патрабавала закрыцця Ігналінскай АЭС. Урад незалежнай Жамойці такога пытання нават не ставіць, бо рэспубліка не мае альтэрнатыўных крыніц энергазабеспячэння.

## КРЫЎДА ТЫДНЯ

25 студзеня, выступаючы на пасяджэнні Вярхоўнага Савета ў раздзеле «рознае», прадстаўнік ветэранскай арганізацыі выказаў крыўду на сродкі масавай інфармацыі Беларусі за тое, што тыя праігнаравалі /не паказалі па тэлебачанні, не пахвалілі ў газетах/ ветэранскі пікет ля «жалезнага Фелікса» насупраць КДБ у дзень візіту ў Мінск прэзідэнта ЗША; нават словам не абмовіліся наконт бальшавіцкай лістоўкі, распаўсюджанай у той дзень па горадзе.

Калі б таварышы ветэраны лепш разбіраліся ў законах /пасада народнага дэпутата РБ усё ж такі абавязвае.../, дык, мабыць, прыхавалі б сваю крыўду. Бо несанкцыянаваная акцыя палітычнага характару пад лозунгамі, змест якіх можна трактаваць як асабістую абразу прэзідэнта ЗША і старшыні парламента Беларусі — гэта, згодна законаў Беларусі, крымінал. Больш таго, палітычная правакацыя на мяжы з тэрарызмам.

Такім чынам, сваёй крыўдай ветэраны-дэпутаты дэманструюць непаразуменне тыдня ў адносінах да закона і няўдзячнасць тыдня ў адносінах да ўлад, якія свядома заплюшчваюць вочы тады, калі б трэба было закон выконваць. Ну, а якія будуць дзеянні міліцыі, калі Чарнамырдзіна ў Мінску сустрэнуць пікеты працаўнікаў «аб'яднання»?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Мяне часта пытаюцца, што я думаю аб перспектывах аднаўлення эканомікі Беларусі і будучага дабрабыту. Я адказваю, што я настроены аптымістычна і поўны энтузіязму. Людзі кажуць: «Але ж Беларусь цалкам знаходзіцца ў залежнасці па нафце і газу». Дык жа ў такім становішчы і Польшча, аднак у Польшчы кожны можа мець колькі заўгодна нафты і газу. Чаму? Таму што Польшча ўвяла сапраўдную валюту, здзейсніла фундаментальныя рэформы, здолела збалансаваць попыт з пастаўкай праз механізм цэн. Людзі таксама гавораць: «Але ж Беларусь не мае ніякіх прыродных рэсурсаў».

Па-першае, гэта не так. А па-другое, абмежаваныя прыродныя рэсурсы не сталі перашкодай для росквіту шэрагу краін. Швейцарыя яўляе сабою яскравы таму прыклад.

Акрамя таго, Беларусь мае сапраўды неацэннае багацце: гэта цудоўнае адукаванае грамадства, вялікая колькасць вышэйшых навучальных устаноў і даследчых інстытутаў, працалюбівы народ, шматабяцаючае маладое пакаленне і, што самае галоўнае, чыстую старонку ў гісторыі для стварэння такога грамадства, якога жадаюць самі беларусы — свабоднае ад вонкавага ўмяшання і залежнасці».

*/Дэвід Суорц, да апошняга часу Надзвычайны і Паўнамоцны амбасадар ЗША ў Беларусі/.*

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

26 студзеня ў сядзібе БНФ адбылася ўрачыстая імпрэза ў гонар 430-й гадавіны перамогі аддзела войска Вялікага княства Літоўскага на Чашніцкім полі ля ракі Ула над збройнымі часцямі баярына маскоўскага Васіля Шуйскага ў бітве 26 студзеня 1564 года. Чатырохтысячны аддзел Рыгора Хадкевіча разбіў дазвання маскоўскі экспедыцыйны корпус у 25 тысяч чалавек.

З нагоды

# МЭТА ДАСЯГНУТА?..

Калі я распачынаў гэтыя нататкі, палітычнай падзеяй нумар адзін было пазбаўленне пасад старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі і міністра ўнутраных спраў. Аднак у рангу сенсацыі навіна трымалася толькі адзін дзень. Ужо назаўтра пацвердзілася прадбачанне апазіцыі, што генеральскія фуражкі Шыркоўскага і Ягорава патрэбны наменклатурнай большасці Вярхоўнага Савета толькі ў якасці прыстрэлкі па больш важнай мішэні — па Старшыні Вярхоўнага Савета. Лёс жа генералаў быў вырашаны ўжо ў той момант, калі яны асмеліліся выпусціць у абарону сваіх ведамстваў ад валюнтарысцкіх наскокаў «дзяржсакратара» Данілава. Я не стану перабольшваць дэмакратызм і беларускі патрыятызм памянёных генералаў. Каб дасягнуць сваіх пасад, яны павінны былі падняцца па высокай службовай лесвіцы, дзе на кожнай прыступцы даводзілася здаваць іспыт на «савецкасць». Так што генералы яшчэ тыя... Але ў канфлікце з дзяржсакратарыятам Э. Шыркоўскі і У. Ягораў выступалі як прафесійнікі, якія не жадалі падпарадкоўвацца самаўпэўненым дылетантам, ды яшчэ потым несці адказнасць за іхнія ўчынкі. У дадзеным выпадку прафесійныя і чалавечыя амбіцыі генералаў аб'ектыўна супадалі з інтарэсамі дзяржавы. Іх прынцыповая пазіцыя не давала ператварыць КДБ і МУС у асабістую гвардыю прэм'ер-міністра. Такое, паўтаруся, не даруецца.

І каб не было інцыдэнту з затрыманнем у Мінску і перадачы уладам Жамойці двух яе грамадзян, што пасля крывавых падзей у Вільні ў студзені 1991 года знаходзіліся «в бегах» /затрыманне і перадача затрыманых былі здзейснены ў адпаведнасці з законамі Беларусі і беларуска-жамойцкімі пагадненнямі/, дык знайшлася б іншая зачэпка. Натхняльнікі авантуры са звальненнем Э. Шыркоўскага і У. Ягорава не да канца ўяўлялі, да чаго яна можа прывесці. Яны і ад генералаў чакалі ці не ўзброенага супраціўлення. Бо інакш незразумела, дзеля чаго 20 студзеня без ведама міністра ўнутраных спраў былі прыведзены ў стан баявой гатоўнасці ўнутраныя войскі, а адзін батальён нават выведзены на вуліцу ў раёне Дома ўрада.

Абвінавачванні Э. Шыркоўскага і У. Ягорава выглядаюць яшчэ больш абсурднымі пасля таго, як прэзідэнт Жамойці афіцыйна падзякаваў Беларусі за дапамогу ў затрыманні злачынцаў, а старшыня сейма і прэм'ер-міністр выказалі здзіўленне з таго вэрхалу, які ў нас узняўся вакол «інцыдэнта». Яны мяркуюць, што ён проста скарыстаны як падстава для кадравых перастановак у нашым МУС і КДБ.

Зразумела, узрадаваліся нашы камуністы /здымак пікета, што на мінулым тыдні бальшавікі ладзілі ля будынка МУС-КДБ, вы бачыце/. Яны сёння перажываюць прыемнае пачуццё здзейсненай помсты. Але арганізатары палітычнай авантуры яшчэ не ўяўляюць, якія маральныя страты ўжо панесла ўлада, які самазабойчы ўдар нанесены і па прэстыжы Саўміна і па Вярхоўным Савеце /чатыры дні мусоліць штучны «інцыдэнт», калі стаяць заводы і невядома, як пройдзе сяўба/.

Пасля генералаў наменклатура ўзялася за Шушкевіча. Магчымасць такога абароту спікер дапускаў, але не думаў, што гэта будзе сур'ёзна. Лукашэнка, чый рэйтынг сярод мясцовага люмпена расце з хуткасцю, якая ўжо пачынае насцярожваць, зноў абвінаваціў Старшыню Вярхоўнага Савета ў злоўжыванні службовым становішчам. Зноў называліся нейкія лічбы /«четыре объекта», «тринадцать заказов», «пятнадцать заказов».../, зноў скланяліся на ўсе лады нейкія асаблівыя стасункі Шушкевіча з рамонтна-будаўнічым упраўленнем Саўміна. І ўсё гэта — з лямантам, размахваннем рукамі, патэтычнымі зваротамі да народа, які павінен ведаць праўду, і прапановамі Шушкевічу добраахвотна пайсці ў адстаўку або... застрэліцца.

У адрэдагаваным выглядзе абвінавачванне Шушкевіча выглядала так: адазваць з пасады за тое, што не змагаўся з карупцыяй і ўвогуле быў нясціплым. Як у «Пінскай шляхце»: адных каралі за тое, што біліся, другіх — за тое, што бачылі і не разнімалі, а трэціх — што не бачылі і не разнімалі.

Дакумент з падобнай фармулёўкай быў прыняты і ў адносінах да Кебіча. Потым і таму і другому далі «апошняе слова» перад галасаваннем.

С. Шушкевіч у сваёй прамове арыентаваўся на камуністычную большасць у ВС. Ведаў, дэмакраты хоць яго і не любяць за беспрынцыпную «згоду», але прагаласуюць за яго. Каб не даць лішніх шанцаў сваім апанентам. Быў у прамове цікавы момант, калі Шушкевіч даказваў, што ён не русафоб. Ён, маўляў, разумее, што Іван Грозны, Пётр І ды іншыя «расійскія кіраўнікі» праводзілі ў адносінах да беларусаў палітыку генацыду /тут ён з Пазняком згодны/, але сваіх, расейцаў, яны знішчалі мо яшчэ болей. «А гэта нас зближае».

Дзіўная логіка! Гаварыў Шушкевіч і пра шырокі расійскі рынак, пра тое, што Старшыня ВС не можа несці адказнасці за гаротны стан краіны, бо не мае рэальнай улады, яшчэ пра нешта, а скончыў — «пра згоду».

Потым гаварыў В. Кебіч. «Я, — кажа, — ни в коррупции, ни в других неблаговидных действиях не замечен». Відавочна, хацеў сказаць «не замешан»... І яшчэ: «Я каждый месяц вызывал к себе начальника КГБ и спрашивал: «Есть ли у вас дела по коррупции?» А он отвечал: «Нет, уважаемый Председатель Совета Министров». А тут вдруг взялись какие-то дела!»

Святая прастата!

Напрыканцы прэм'ер-міністр паскардзіўся, што не мае асабістага жыцця і даўно не бачыў сям'і.

Потым было галасаванне, вынікі якога вядомыя. Шушкевіч цяпер — проста дэпутат, а Кебіч застаўся на сваім месцы /і было б дзіўна, каб вынік быў іншы/.

Прычына паражэння Станіслава Шушкевіча бачыцца мне зусім не ў падкопах Лукашэнкі, не ў раскладзе сіл у авальнай зале Дома ўрада, а ў нежыццяздольнасці самой ідэі, на якую рабіў Шушкевіч стаўку. Наўрад ці можа быць згода паміж тымі; хто дзяржаву здае, і тымі, хто дзяржаву бароніць.

Да пэўнага часу камуністы яго цярпелі, бо ён са сваёй прафесарскай знешнасцю, беларускай мовай і «згодай» быў жывым увасабленнем тэзіса «дэмакраты прыйшлі да ўлады». А калі дэмакраты пры ўладзе, дык чаго ж мець прэтэнзіі да камуністаў?

Цяпер жа мясцовыя бальшавікі ўзялі курс на рэстаўрацыю мінулага і «дэмакратычны» антураж ім болей непатрэбны. Шушкевіч на сваёй пасадзе меў магчымасці абараніць парасткі дэмакратыі /нават пры досыць абмежаваных паўнамоцтвах спікера/. Не абараніў, на жаль. Колькі разоў, чытаючы ягоныя інтэрв'ю альбо слухаючы публічныя прамовы напярэдадні чарговай сесіі, многія меркавалі: «Ну вось, будзе сесія — Шушкевіч пакажа, на што ён здольны!» А на сесіі зноў — «згода»...

«Незалежны» дэпутат Лукашэнка на гэтай сесіі выканаў сацыяльны заказ наменклатуры. Ён выглядаў імяніннікам, больш таго — рымскім трыумфатарам. Шмат пра што гаворыць ягоны радасны крык пасля абвяшчэння вынікаў галасавання /калі стала вядома, што ён «зваліў» Шушкевіча/: «Спадары дэпутаты! Віншую вас з заканчэннем палітычных гульняў з боку апазіцыі!» З рабоча-сялянскай прасталінейнасцю ён выдаў стратэгічную мэту. «Свавольныя» генералы, нават Шушкевіч — толькі прамежкавая мэта, галоўная — пазбавіцца ад апазіцыі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ДАВАЙЦЕ ПАРАІМСЯ

## АД ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА ЎДАКЛАДНЕННІ ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Камісія завяршыла першы этап работы і выносіць на разгляд грамадскасці свае прапановы па зменах у правапісе. Як і трэба было чакаць, найбольш спрэчак і разыходжанняў сярод членаў Камісіі выклікала пытанне аб правапісе мяккага знака: выпрацаваны аж чатыры варыянты яго пашырэння ў пісьме. Паколькі пытанне асабліва важнае, Камісія і прапануе ўсе чатыры ўвазе тых, хто мае намер прыняць удзел у абмеркаванні правапісу. Усе астатнія прапановы аб зменах у правапісе былі прыняты на пасяджэннях Камісіі аднагалосна ці амаль аднагалосна.

Адрасуючыся да грамадскасці, хацелася б нагадаць, што само пытанне аб удакладненні правапісу нашай літаратурнай мовы не надуманае і не кімсьці навязанае, як гэта здаецца, мяркуючы па лістах у Камісію, некаторым шаноўным грамадзянам. Яно ўзнікла таму, што нельга далей пакідаць па-за ўвагай той разнабой у мове друку, радыё і тэлебачання, які выразна абазначыўся і набывае ўсё большыя маштабы. У грамадскай моўнай практыцы ўсталёўваецца свавольства і хаос, што вельмі згубна адбіваецца на агульным узроўні пісьменнасці ў краіне, не кажучы пра тое, што гэта не робіць нам, грамадству і дзяржаве, гонару. Не можа не выклікаць шкадавання, што рэакцыя на палітычную тэндэнцыйнасць рэформы правапісу 1933 года штурхае некаторых грамадзян у другую крайнасць, калі таксама выяўляецца відочная тэндэнцыйнасць, толькі з процілеглым знакам. А трэба ў гэтай справе кіравацца прынцыпамі навуковасці, эстэтычнасці /мілагучнасці/, павагі да традыцый, натуральнасці маўлення, даступнасці авалодання і зручнасці карыстання літаратурнай мовай. Іменна гэтым кіравацца ў размове аб правапісе і заклікае Камісія.

Заўвагі і водгукі просім выказаць у друку, а таксама прысылаць у Камісію на адрас: 220016, г. Мінск, вул. К. Маркса, 38, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Тэрмін — да 1 красавіка 1994 г.

## ВЫНІКОВЫ ДАКУМЕНТ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА ЎДАКЛАДНЕННІ ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

На абмеркаванне грамадскасці выносяцца наступныя варыянты правапісу змякчальнага мяккага знака.

1а. Пашырыць напісанне змякчальнага мяккага знака і даць наступную фармуліроўку п. 26 §87 «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» /Мн., 1959/:

«Мяккі знак пішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назоўнікаў, якія канчаюцца мяккім *н*: *студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, восеньскі, коньскі, Смаргоньскі* /раён/, *Быценьскі, Блоньскі, Чэрвеньскі, Любаньскі, «Радуньскі»* /калгас/».

Мяккі знак пісаць таксама пасля прыставак, якія канчаюцца на *з*, перад *е, ё, ю, я* і націскным *і*: *зьезд, зьёрзаць, разьюшаны, зьялчэць, зьінець.*

1б. Пашырыць напісанне змякчальнага мяккага знака і даць наступную фармуліроўку п. 26 /87/ «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»:

«Мяккі знак пішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўлас-

## З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры адзначыў 90-годдзе з дня нараджэння Піліпа Пестрака. На літаратурную сустрэчу былі запрошаны вучні сярэдніх школ N 6 і 40 г. Мінска, студэнты гуманітарнага універсітэта. Даследчык жыцця і творчасці Піліпа Сямёнавіча К. Хромчанка расказаў пра яго, падарыў музею рукапіс пісьменніка «Аўтабіяграфія Піліпа Пестрака».**
**Была наладжана выстаўка «Жыццё і творчы шлях Піліпа Пестрака».**

**З. КУЧАР**

## «БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР» НА 1994 ГОД

**Напярэдадні Народзін Хрыстовых упершыню ў гісторыі айчыннага кнігавыдавецтва па-беларуску быў выдадзены «Беларускі праваслаўны каляндар на 1994 год». Выданне падрыхтавана Беларускім праваслаўным брацтвам трох віленскіх мучанікаў і разлічана на самы шырокі ўжытак. Найперш, безумоўна, «Каляндар» незамяняльны для людзей царкоўных як шляхаводнік у гадавым літургічным коле. Апрача таго, «Каляндар» здольны зарыентаваць і людзей, якія яшчэ толькі намагаюцца ладзіць сваё жыццё паводле праваслаўнай традыцыі. Менавіта з гэтай мэтаю ў каляндарнай частцы выдання змешчаны шматлікія тлумачэнні да найбольш значных свят і дзён памяці асобных святых.**
**Усё выданне складаецца з трох частак. Першая — непасрэдна праваслаўны каляндар. Другая — праваслаўны катэхізіс. Трэцяя — апісанне беларускіх праваслаўных святыняў. Выданне мае асветніцкую мэту, яно дапаможа чытачам атрымаць асноўныя пачатковыя веды аб праваслаўным веравучэнні, пазнаёміць з жыццяпісамі святых зямлі беларускай, з апісаннямі асобных цудатворных іконаў на Беларусі. З гэтага пункту «Каляндар» будзе вельмі карысным для настаўнікаў, выкладчыкаў, прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі.**
**Паколькі выданне падрыхтавана цалкам па-беларуску, то яно ўяўляе цікавасць з пункту моўна-лексічнага, з пункту распрацоўкі і развіцця беларускай рэлігійнай тэрміналогіі. «Каляндар» аздоблены каляровымі ўклейкамі з выявамі беларускіх святых, а таксама унікальнымі гістарычнымі фотаздымкамі.**

## ЧАРГОВЫ, ДЗЕВЯТЫ НУМАР

**часопіса «Полацак» пазначаны яшчэ мінулым годам. На вокладцы яго — партрэт Н. Арсенневай. 90-годдзю яе прысвечаны і верш М. Кавыля «Паэтэса». У раздзеле «Наша гісторыя» — артыкулы А. Грыцкевіча «Узнікненне феадальных дзяржаў у беларусаў у працэсе ўтварэння дзяржаў у славян», Л. Дучыц — «Варагі ў Беларусі», М. Белемука — «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў», Л. Калядзінскага — «Кароль са Слуцку». Увазе чытача прапануюцца «Успаміны Яўгена Ціхановіча» і развагі пра яго творчасць В. Шматава «Ганаровы грамадзянін Дунайвараша», працяг рамана М. Кавыля «З агню ды ў полымя», роздум С. Белай пра творчасць С. Палуяна /«Ты быў, як месяц адзінокі...»/, матэрыялы пра А. Смоліча, іншыя публікацыі. Часопіс смуткуе ў сувязі з заўчаснай смерцю С. Карніловіча.**

## «ПРАЛЕСКА», N 11

**У адзінаццатым нумары часопіса /на жаль, запазняецца/ — развагі галоўнага рэдактара А. Сачанкі «У беспрацоўя — жаночы твар», чарговыя старонкі апавяданняў па гісторыі Беларусі «Адкуль наш род» У. Арлова, нарыс А. Марціновіча «Першыя ружы асабліва прыгожыя...» /пра Л. Чарняўскую/, апавяданні В. Зуёнак для дзетак «Боцман» /з іх лёгка зрабіць кніжку «Бібліятэчкі «Пралескі»/, творы Э. Агняцвет, Г. Багданавай, М. Самусенкава /падборка «Вясёлы вулей»/, іншыя матэрыялы.**

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА КОЛАСА

**Кніга М. Жыгоцкага «Сэрца пакідаю вам», выпушчаная выдавецтвам «Полымя», дае магчымасць наведаць мясціны, у якіх у свой час бываў народны пясняр Якуб Колас. А ў яго біяграфіі, як вядома, прапісаліся Палессе і Магілёўшчына, Слуцк, у якім ён чытаў лекцыі на настаўніцкіх курсах у пачатку дваццатых гадоў... У гады ж вайны Я. Колас жыў у Ташкенце, наведваўся ў Маскву і Казань. І, вядома ж, ніколі не забываў любую яго сэрцу Мікалаеўшчыну.**
**Краязнаўчыя нарысы М. Жыгоцкага даюць магчымасць перагарнуць асобныя старонкі жыццяпісу незабыўнага Кастуся Міхайлавіча.**

# ЁН БЫЎ ПЕСНЯРОМ ПАЛЕСКАЙ ДУШЫ

Адной з негатыўных праяў былога таталітарнага мыслення дасталася нам у спадчыну гэткая юбілейнасць асэнсавання значнасці пісьменніка. І па сённяшні дзень крытыка моцна павязана, як кажуць, па руках і нагах, храналагічным прынцыпам у асвятленні літаратурнага працэсу. Надыходзіць юбілей пісьменніка — яму прысвячаюцца навуковыя артыкулы, часам і цэлыя канферэнцыі. Але праходзяць святы — гасне і тая жывая зацікаўленасць крытыкі да былога суб'екта вывучэння, бо наперадзе, вядома ж, — новыя юбілеі, новыя кнігі. У лепшым выпадку шанцуе тым паэтам, празаікам, драматургам, творчасць якіх уяўляе цікавасць у плане актуальнасці пэўных грамадскіх ці літаратуразнаўчых праблем. Такім чынам па-ранейшаму застаецца недастаткова запатрабаваным вялікі духоўны патэнцыял, напрацаваны нашай літаратурай за стагоддзі, дзе першасным з'яўляецца шматспектральнае праяўленне беларускай душы ў розных палітычна-сацыяльных сферах зямнога быцця чалавека і сакраментальна-ізатэрычнае, макракасмічнае яе выяўленне. А гэта — надзённае патрабаванне сучаснасці, новага гістарычнага пералому ў лёсе народа, калі інтэлігенцыяй выпрацоўваецца новая, нацыянальная канцэпцыя духоўнага развіцця грамадства.

Іван Мележ якраз і належыць да тых творцаў, хто здолеў у нашай літаратуры найбольш глыбока спасцігнуць духоўную сутнасць народа. Успамінаецца нядаўні папрок крытыка У. Гніламёдава ў «ЛіМе» І. Мележу за яго акрэсленае марксісцка-ленінскае раскрыццё жыцця палешукоў. Варта згадзіцца з тым, што сапраўды мележаўскі Апейка, гэты камуніст з чалавечым тварам, уяўляе сабою ілюзорнае бачанне пісьменнікам вызначальнай ролі камуністаў у нацыянальным пераўтварэнні Палесся. Аднак ілюзія гэта выразна развейваецца ў «Подыху навальніцы» і «Завеі, снежні». Я буду салідарнай з тымі крытыкамі, хто выкажацца за поўны перагляд творчасці І. Мележа. Бясспрэчна адно: Мележ быў, ёсць і яшчэ доўга будзе заставацца лепшым песняром палескай душы. Ні адыёзнасць вобразаў тыпу Башлыкова, ні перавага сацыяльна-палітычных калізій у «Подыху навальніцы» і «Завеі, снежні» ўсё ж не засланілі «Людзей на балоце». І. Мележ стварыў і неперaўзыдзены гімн вечнасці палескай душы, якая — і ў людзях, і ў прыродзе, і ў той непарыўнай лучнасці жывой чалавечай душы з боскім яе праяўленнем у свеце народнага мастацтва, арэоле абраднасці, звычаяў, этнаграфіі і фальклору.

Нарэшце, мележаўская «Палеская хроніка» сваёй выразнай беларускай ментальнасцю заўсёды дасць адпор усякім «шэляговічам» ды ўсім іншым, хто намагаецца прышчапіць Палессе да Украіны ці Расеі.

Мэта гэтай маёй публікацыі — не спроба перагляду творчасці І. Мележа /ён, спадзяюся, наперадзе/, а завастрыць увагу творчай інтэлігенцыі на праблеме ўшанавання імёнаў нашых славутых землякоў. І хоць доўга яшчэ чакаць чарговага юбілею І. Мележа, але яго

Сярод кніг

# ДВА ШЭДЭЎРЫ

Трыяда: народная культура — антычнасць — хрысціянства ёсць ядром усяе еўрапейскае цывілізацыі і сарцавінаю кожнае асобнае еўрапейскае культуры. Таму замах на гэтае трыадзінства, зроблены бальшавікамі, адгукнуўся самым непасрэдным чынам і на беларускай культуры: разам са змаганнем супроць народнай культуры, фізічным знішчэннем храмаў і святароў выкаранялася таксама і класічная школа /з выкладаннем грэцкай і лацінскай моў/, рэпрэсаваліся прафесары гімназій і спецыялісты ў галіне антыказнаўства, перакладчыкі.

Пустка, якая запанавала ў галіне мастацкага перакладу са старажытных моў, толькі апошнім часам пакрысе пачала менець. Асабліва радасна, што сярод першых «антычных здабыткаў» перакладчыкаў — грэцкая трагедыя, найдасканалейшы твор духу вялікіх элінаў, які спарадзіў мноства пазнейшых наследаванняў у літаратуры і мастацтве Новай Еўропы, выклікаў з'яўленне шэрагу філасофскіх і літаратуразнаўчых прац. У кнігу, якая выйшла зусім нядаўна ў выдавецтве Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра /серыя «Школьная бібліятэка»/, уключаны два шэдэўры грэцкае драматургіі: «Прыкуты Праметэй» Эсхіла і «Антыгона» Сафокла. Першы твор увасоблены па-беларуску Лявонам Баршчэўскім, перакладчыкам, які ўжо вядомы нашаму чытачу цудоўнымі перакладамі з нямецкай, французскай, лацінскай ды іншых моў. «Прыкуты Праметэй» — гэта першы пасля 1926 г. пераклад трагедыі на беларускую мову. Звяртае на сябе ўвагу мілагучная і суладная мова, вытрыманасць рытмічнай будовы, адэкватнасць перадачы вобразнай структуры, метафорыкі твора. Пэўная непаслядоўнасць у транслітэрацыі грэцкіх уласных імён тлумачыцца нявыпрацаванасцю дагэтуль прынцыпаў іх перадачы на беларускую мову.

Другая трагедыя — «Антыгона» — гэта перадрук у новай рэдакцыі таго ж Лявона Баршчэўскага перакладу, зробленага знаўцам антычных моў і літаратуры Юльянам Дрэйзіным і надрукаванага ў 1926 г. у Менску. Юльян

# ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

Важнейшым кірункам навукова-даследчай работы ў галіне моў і дыялектаў з'яўляецца ў цяперашні час лінгвістычная геаграфія. У выніку фундаментальных лінгвагеаграфічных работ у розных краінах, асабліва ў Еўропе, створаны і працягваюць стварацца разнастайныя лінгвістычныя атласы асобных моў, групаў моў і моў цэлых кантынентаў.

У пасляваенныя гады ў Беларусі таксама былі разгорнуты лінгвагеаграфічныя даследаванні.

У пачатку 70-х гадоў была распрацавана праграма па лінгвагеаграфічным вывучэнні лексікі беларускіх гаворак. На аснове 20-гадовых даследаванняў падрыхтавана фундаментальная лінгвагеаграфічная праца — «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» у 5 тамах. Гэта даследаванне разам з «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы», які быў выдадзены ў 1963 г., складае комплекс буйнейшых лінгвагеаграфічных прац па беларускіх гаворках і дыялектах.

«Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» змяшчае каля 2000 лінгвістычных картаў, на якіх раскрываецца ўзаемнае распаўсюджанне ў межах Беларусі больш 200 тысяч слоў, якія ўласцівы беларускім народным гаворкам. Матэрыялам для выдання з'явіліся каля 4000 найменняў прадметаў, прыкмет, працэсаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Усяго абследавана каля 150 населеных пунктаў, з іх 29 пунктаў знаходзяцца ў зоне, якая пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Лінгвістычныя карты сістэматызаваны ў тамы тэматычна. Першы том — раслінны і жывёльны свет, другі — сельская гаспадарка, трэці — чалавек, чацвёрты — побыт, пяты том — семантыка, словаўтварэнне і націск.

Разам з лінгвістычнымі картамі ў кожным томе пададзены матэрыял, на аснове якога складзены карты, а таксама каментарыі да іх. Матэрыял, які ўключаны ў атлас, раней не картаграфаваўся /за рэдкімі выключэннямі/.

Створаны атлас з'яўляецца унікальным навуковым адлюстраваннем лексікі беларускіх гаворак у яе прасторавым размеркаванні ў 70-я гады цяперашняга стагоддзя. Паўтарэнне падобнай працы немагчыма перш за ўсё ў сувязі з перасяленнем жыхароў са значнай часткі тэрыторыі Беларусі, якое выклікана аварыяй на Чарнобыльскай АЭС.

«Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» — не толькі фундаментальная лінгвістычная навуковая праца, якая мае значэнне для рашэння пытанняў беларускай мовы і славянскага мовазнаўства, гісторыі, этнаграфіі, але і каштоўнейшы скарб беларускай куль-

# КРЫК ЗБАЛЕЛАЙ ДУШЫ

**Між пажоўклых ад часу лістоў**
**і даўно прызабытага болю,**
**праз гады,**
**у шуфлядзе пустой**
**я знайшоў свае вершы з няволі.**

Гэтым вершам /«Праз гады»/, напісаным у 1987 годзе, адкрываецца кніга паэзіі Васіля Супруна «Крык», нядаўна выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Правільней, твор гэты — своеасаблівы эпіграф да кнігі, а далей ідуць тры раздзелы — «Боль», «Надзеі», «Доля». Зрэшты, не зусім так: раздзелы пазначаны сціплей: «З нізкі «Боль», «З нізкі «Надзеі» і «З нізкі «Доля».

Хто ж такі Васіль Супрун? Лімаўскі чытач, бадай, гэта ведае. Штотыднёвік неаднаразова змяшчаў творы гэтага пакутніка, у тым ліку і яго паэтычную перапіску з Ларысай Геніюш. Тым не менш, варта ўсё ж прачытаць прадмову Алега Лойкі «Васілёк за калючым дротам» — пра жыццёвы шлях В. Супруна. Алег Антонавіч, аказваецца, меў асабістыя стасункі з аўтарам кнігі, прытым ажно пяцьдзесят гадоў назад. А. Лойка свой першы верш апублікаваў у адзін і той жа дзень, у адной і той жа Баранавіцкай газеце разам з В. Супруном. Было гэта яшчэ ў 1943 годзе: «Вершы ў рэдакцыю даслаў Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, тады дырэктар Слонімскага музея, які збіраў вакол сябе цікаўных да паэзіі хлапцоў».

На той час В. Супрун вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі, быў старэйшым за А. Лойку /нарадзіўся 10 сакавіка 1926 года ў вёсцы Глоўсевічы на Слонімшчыне/. Ды, на жаль, далейшыя яго пуцявіны пайшлі не ў паэтычным кірунку. Закончыўшы пасля вайны Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча, В. Супрун нядоўга настаўнічаў, і вышэйшай адукацыі /завочна/ не паспеў атрымаць. У чэрвені 1947 года В. Супруна арыштавалі. Пачаліся допыты, катаванні, розныя турмы, а пасля прыгавор: дваццаць пяць гадоў зняволення і пяць гадоў высылкі. І толькі ў снежні 1956 года В. Супруну ўдалося вярнуцца на Бацькаўшчыну...

У рэшце рэшт, пра гэта можна прачытаць і ў вершах. Нездарма Васіль Рыгоравіч прызнаецца: «Паэзія была крыкам маёй душы, маім болем і пачуццём». Гэты крык збалелай душы адчуваеш і цяпер, праз гады, калі раны пачалі зарубцоўвацца і ў дачыненні да яго вярнулася справядлівасць:

**Кожны верш — гэта боль,**
**гэта крык і благанне,**
**гэта вера ў сябе,**
**падмацоўванне сіл,**
**можа, нават адчай**
**ад той восені ранняй,**
**што прывідам брыдзе**
**па краёчку магіл.**

Напісана гэта ў Інцінскім лагеры N 2 у 1954 годзе. На той час ужо адбылося /годам раней/ завочнае знаёмства В. Супруна з Л. Геніюш і душа яго займела ўжо духоўнае апірышча, пачалася між імі перапіска вершамі. Як тут не пагадзіцца з А. Лойкам: «... паэтычны дыялог 50-х гадоў — Ларыса Геніюш — Васіль Супрун — гэта унікальная старонка не толькі беларускай паэзіі. Гэта лірыка не толькі высокага грамадзянскага гучання, але і пранікліва-шчымлівая інтымная лірыка».

Застаецца толькі дадаць, што вартасці гэтых твораў, іх душэўную напоўненасць, прасветленасць і адначасова пакутлівы боль можна адчуць, калі чытаць па чарзе вершы В. Супруна і Л. Геніюш. Зварот — адказ, душэўны пасыл — рэагаванне на яго. Дарэчы, у 1989 годзе ў «ЛіМе» яны, гэтыя вершы, так і былі апублікаваны. Цяпер жа ёсць магчымасць браць у рукі адначасова згаданы зборнік В. Супруна «Крык» і томік лірыкі Л. Геніюш «Белы сон».

Згаданыя творы — толькі частка напісанага В. Супруном у турэмных, лагерных умовах. Яны сваімі матывамі блізкія, скажам, да лагернай лірыкі М. Сяднёва, С. Новіка-Пеюна, С. Пярловіча /яго кніжка мае намер выйсці ў «Мастацкай літаратуры»/ і, вядома ж, Л. Геніюш. У адным з вершаў, пасланых ёй, В. Супрун прызнаваўся: «Сапраўды, у кожным вершы тваім адчуваю знаёмага многа. Пэўна, йсці давялося дваім амаль тою ж жыццёвай дарогай».

Многім давялося ісці «амаль тою ж жыццёвай дарогай», калі не забывалі, што яны беларусы. І многія б маглі падпісацца пад гэтымі радкамі В. Супруна:

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЭМІЮ ПАДЗЯЛІЛІ...

**Фірма «Літвіны», якой кіруе С. Салохін, узяла плённы ўдзел у конкурсе Саюза кампазітараў Беларусі на лепшы камерны твор. Якім чынам? У якасці спонсара. Дзякуючы «Літвінам» пераможцы конкурсу атрымалі грашовае заахвочванне за лепшае сучаснае ўвасабленне народных традыцый у камернай музыцы. Пераможцамі названы маладыя кампазітары В. Кузняцоў /з творам «Гетэрафонія»/ ды С. Янковіч /з творам «Пастараль»/. Прэмія, прызначаная спонсарамі, была падзелена напалам, і С. Салохін уручыў кожнаму творцу па 100 тыс.**

## 40 ГОД БРЫТАНСКАЙ СКУЛЬПТУРЫ



*Генры Мур. Фігура, напалову ляжачая. 1939 г.*



*Лін Чэдвік. Звер XXII. 1959 г*

**Багаты стаў Мінск на выставы замежнага мастацтва, што асабліва датычыць Польшчы, Германіі, а цяпер і Вялікабрытаніі. Не так даўно даўжэзная «галерэя» Дзяржаўнага мастацкага музея стала падобнай і на адзін з ціхенькіх музейных зальчыкаў, дзе звыкла ходзіш ад работы да работы, знаёмячыся з дзівоснай феерыяй незнаёмай нам культуры — як брытанскай, так і агульнаеўрапейскай. Абцякальна-эратычныя лініі Генры Мура, экстравагантна-жорсткія формы Барбары Хэпвард ці Роберта Адамса, фантастычныя звяры Лін Чэзвік. Скульптуры, падмацаваныя абстрактнымі жывапіснымі работамі на сценах. Аніякай фальклорнасці, аніякіх адзнак краёвасці. Агульнаеўрапейскі шлях мастацтва, зварот да абстрактна-жорсткага ўвасаблення, да квінтэсенцыі канкрэтнай ідэі ва універсальнай форме, якую можна адшукаць як у прыгожых лініях жаночага цела, так і кінутым на сметніку кавалку жалеза. Адзнака цывілізацыі — эстэтычнасць у кожнай рэчы, самай парадаксальнай і самай звычайнай і незаўважнай.**

**Поспех выставы — вялізны. Бо кожнае знаёмства з замежным мастацтвам для нас застаецца адкрыццём.**

## ВОДГУЛЛЕ «САКРАСОНГА»

**Так назвалі сваю канцэртную праграму госці камернай залы, што на Залатой Горцы, — артысты Мінскага абласнога камернага хору. Пра гэты калектыў з Маладзечна і яго мастацкага кіраўніка А. Шута «ЛіМ» распавядаў летась, калі зусім малады хор выйшаў у лаўрэаты І Міжнароднага фестывалю «Магутны Божа», пасля чаго атрымаў запрашэнне ў Кракаў на прэстыжны фестываль новай хрысціянскай музыкі «Сакрасонг». Своеасаблівай справаздачай перад сталічным слухачом і стаўся канцэрт маладзечанцаў «Водгулле «Сакрасонга». Уражвала ўсё: і сакавітая ёмістасць гучання брукнераўскай музыкі, і жывы подых разнастайных вакальных ансамбляў у Моцартавай «Missa brevis», і мяккасць басовай групы, і віртуозныя поліфанічныя карункі ў сучасных духоўных творах /Нікадамовіч, А. Дзмітрыеў/, якія рыхтаваліся для выступленняў на «Сакрасонгу», а ў Мінску прагучалі як прэм'еры. Ну, і, канечне, салісты з маладымі й моцнымі опернымі галасамі: тэнар Г. Юрэвіч, барытоны С. Зубкевіч ды А. Важнік, сапрана Н. Селіверстава. А з якім захапляючым пачуццём імкнуў пад «неба» касцёла голас М. Васілевіч, з гэтым дзівосным срэбразвонным crescendo! Якой дзіўнай фарбай расквечваў ажыўшую харавую партытуру незвычайны, «альтовы» тэмбр І. Пацоўскай! Нарэшце, як далікатна перапляталася з галасамі фартэпіянная партыя, пераўвасобленая са складаных аркестравых партытур канцэртмайстрам хору С. Кудрыным.**

С. БЕРАСЦЕНЬ

Музыка

# ТРЫ «ІПАСТАСІ» УЛАДЗІМІРА КУР'ЯНА

КОЛЬКІ я яго ведаю, ён ніколі не папярэджваў выкананне свайго твора шматслоўнымі тлумачэннямі зместу ці ідэі, ніколі не распавядаў красамоўна пра выбітнасці й глыбіні. Выразнасць ягонай музыкі заўсёды кажа сама за сябе.

Ён ні раней, ні цяпер не вылузваўся са скуры, каб даказаць, што ўсё, што ён піша, сапраўды /і толькі ў яго!/ б е л а р у с к а е /такія памкненні сёння, на жаль, з сумам назіраю/. Яму не трэба было ні тады, ні цяпер быць палітыкам у мастацтве, каб хуценька ўзбегчы на грэбень хвалі. Бо ён — т а л е н т. Ён — мастак-беларус, і ў кожным творы яго, у асобнай музычнай фразе пазнаецца тое непадробнае, унікальнае — той спецыфічны стан душы, пра што раней сказалі б: нацыянальны дух /цяпер ужываюць іншае слова — ментальнасць/. Гэта не растлумачыш нават, але адчуеш, слухаючы ягоную музыку. А наогул, прыгадваючы, як многа зрабілі для беларускага мастацтва Мулявін, Тарасаў, Кармунін, ён лічыць, што для нацыянальнай культуры валоданне прафесіяй і талент даюць больш, чым самыя надзённыя дэкларацыі пасрэднасцяў.

Ён ніколі не рваў кашулю на грудзях /як, няма чаго хаваць, робяць тыя, хто тэхнічнымі вынаходніцтвамі маскіруе адсутнасць сапраўднай даравітасці/, каб даказаць... Што? Што ягоныя вынаходніцтвы ў музычнай мове самыя найноўшыя або што ён першы, хто ўжыў іх на беларускай глебе. Яго знаходкі арганічныя, неспадзяваныя, а музычная фантазія не перастае здзіўляць.

Ён ніколі не дакляраваў ступень сваёй блізкасці з прыродай /у адрозненне ад сучасных «дзяцей цывілізацыі»/, бо яго спалучэнне з ёю і — тонкае, менавіта с в а ё адчуванне яе вядомыя ўсім нам, ягоным знаёмцам. Не ўяўляю сабе, каб хто-небудзь, акрамя Валодзі, вельмі стомленага ў той спякотны дзень, вось так проста спыніў бы каля мяне сваю «трынаццатку», каб толькі паказаць, якія прыгажуны-грыбы вязе ён з лесу. І які быў у яго ў тую хвіліну твар! Нездарма ж знайшоў ён сярод сваіх калег такіх жа, улюбёных у родную прыроду, і з'яднаў іх у «асацыяцыю незайздрослівых кампазітараў».

Ён самабытны ва ўсёй сукупнасці сваіх вартасцяў і недахопаў /якія, на жаль, не заўсёды — працяг нашых вартасцяў/. Стан яго творчай душы патаемны, непрадказальны і супярэчлівы. О, ён вельмі неадназначны. Накшталт скрыні з двайным, а можа, і з трайным дном. Мне здаецца, у ім спалучаецца душа музыкі-рамантыка і дзелавая хватка селяніна; спантанная, заўсёды непасрэдная праява эмоцый і жорсткі матэматычны разлік вынаходніка. Магу назваць па меншай меры тры «іпастасі» Валодзі Кур'яна.

ПЕРШАЯ. Энергічны загадчык музычнай часткі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. З прафесійнай жорсткасцю /здаецца, такая рыса — неад'емная частка гэтай пасады/ можа вырашыць самую складаную задачу, звязаную з музычным бокам спектакля /ведаю гэта на ўласным вопыце, калі мне дапамаглі Валодзевы прафесіяналізм і сабранасць/. Ён вырашае, ці спрабуе вырашыць, шматлікія праблемы, «выбівае» ў Мінкульце студыю гуказапісу, даводзячы /а хіба трэба гэта даводзіць?/ неабходнасць яе для тэатра, збірае высокапрафесійны ансамбль выканаўцаў, дзе кожны валодае некалькімі інструментамі і рэдкім у наш час дарам імправізацыі ды бязмежнай, здаецца, выканальніцкай мабільнасцю.

Як знайшоў іх? Па-рознаму. З Генам Вішняковым /скрыпка і іншыя, у тым ліку «экзатычныя» інструменты/ разам вучыўся ў кансерваторыі. З Юрам Хілаўцам /гітара і іншыя інструменты/ разам «вяселлі гралі» яшчэ ў вучылішчныя гады /у каго з кампазітараў не было такой «рамантычнай» старонкі ў біяграфіі?/. Віталя Аляшкевіча /сінтэзатар/ «пасватаў», пачуўшы ў іншым ансамблі, і таксама не памыліўся. Андрэй Сапоненка /ударныя/ — адзіны з ансамбля, хто звяртаецца да Валодзі, як да старэйшага, на «Вы», — нядаўні выпускнік ММВ. Ён спадабаўся Кур'яну за тыя ж якасці, якія ўласцівыя й іншым яго ансамблістам, перш за ўсё — за адданасць справе. Але ж, паводле слоў Кур'яна, «ёсць стралкі — няма патронаў», бо зноў і зноў паўстае пытанне аб студыі гуказапісу як асноўнай умове незалежнасці тэатра ад радыё і іншых устаноў.

Зразумела, ён не толькі загадчык музчасткі, але й галоўны кампазітар у купалаўцаў. Які спектакль для яго асабліва дарагі? «Гаральд і Мод» К. Хігінса і Ж.-К. Кар'ера, дзе было шмат магчымасцяў для напісання музыкі самага рознага плана. Незабыўны, вядома, і самы першы яго спектакль, які ён «аздабляў» яшчэ ў 1984 г., — «Там і тут» Д. Кавачэвіча: вельмі цікава было паспрабаваць уявіць сабе музыку, якая існуе не толькі па гэты, але і па той бок быцця. За музыку да «Тутэйшых» Купалы ён атрымаў Дзяржаўную прэмію...

Ягоная музыка арганічная ў стылістыцы любой п'есы: і ў змрочнай псіхалагічнай драме М. Норман «Дзе пісталет, мама?», і ў вадэвілі «Ажаніцца — не журыцца» Далецкіх ды Чарота, і ў іранічнай «Таполевай завеі» М. Задорнава. А самая новая работа — у «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча. І хоць пра тэатральную музыку можна пачуць, што галоўная яе функцыя — прыкладная /нават добра, калі яна непрыкметная і не замінае драматычнаму дзеянню/, ды менавіта музыка здатная стварыць настрой, нешта нават «дагаварыць» у драматургіі п'есы ці «падказаць» нешта, што дапаможа спасціжэнню ідэі. Але гэтак трэба ўмець зрабіць. І ён робіць. І яго тэатральная музыка ў нейкай меры /у сэнсе вобразнасці, тэатральнасці/ «перацякае» ў іншую ягоную музыку, у якой пазнаеш другі бок яго музыканцкай асобы — мастака ўдумлівага, пакутуючага. Гэта — другая «іпастась» Валодзі Кур'яна.



УСІМ, хто Валодзю ведае даўно, памятны выпадак, калі ён, захапіўшыся тэмбрам беларускіх цымбалаў, выпрасіў у свайго сябра-цымбаліста на ўсю ноч інструмент і ўсю тую ноч над ім «варажыў», адкрываючы для сябе /і для нас/ такія дзіўныя адценні гуку, такія дзівосныя спосабы здабывання яго, што каб распавесці пра гэта падрабязна, трэба было б распачынаць яшчэ адзін артыкул. Ды лепш паслухаць яго «Переразвоны» ці непаўторны Канцэрт для цымбалаў.

Дарэчы, у Канцэрце як ніколі раней поўна і арганічна адбілася сутнасць творчай натуры Кур'яна — музыкі і прыдумшчыка: спалучэнне чыста музычнай вобразнасці і глыбіні з яркай тэатральнасцю, элементамі сцэнічнага «дзейства». Уявіце, спачатку струны інструмента спавітыя стужкай з беларускім арнаментам — накшталт слуцкага пояса /што выконвае і чыста санорную ролю — сурдзіны/. Потым, «па ходу дзеяння», выканаўца развязвае, «расчароўвае», вызваляе струны ад стужкі, — ці, можа, душу вызваляе ад скутасці, як вызваляюць з палону казачную птушку, што на самай справе — скаванае жаданне палёту...

Больш «лёгкая» ў сэнсе слоўнага тлумачэння «Жураўліная песня Палесся» — прыклад увасаблення ў творчасці балючай «злабадзённай» тэмы Чарнобыля, выказанай з такой паэтычнай сілай выразнасці і нейкага ціхага, амаль патаемнага душэўнага болю, на такой дасканалай ступені прафесіяналізму, што падчас слухання камяк стаяў у горле. Спачатку, здаецца, гучыць адна доўгая-доўгая шчымлівая нота: ці то вецер, што ніяк не сціхае, ці то

# ЧЫТАЮ, СЛУХАЮ, ГЛЯДЖУ

*(Пачатак на стар. 9)*

стрыманасці: "Хораша", а другі і прыцмокнуў бы: "Сма-ка-та!" Янкоўскі і Скрыган.

І другое, з Хоцімшчыны.

У 1919 годзе ў вёсцы Ліпаўка была створана камуна. Не проста, а з удзелам мясцовага памешчыка Смагаржэўскага. Сяляне яго паважалі. Удзельнік рэвалюцыі пятага года, быў у ссылцы. Кабыла здохне ў кагосьці — дасць грошай на другую. І лесу не шкадаваў, не караў парубшчыкаў. Выбралі старшынёй рэвізійнай камісіі. Яшчэ і дзетак вучыў, ходзячы па хутарах. Замёрз у полі, снегам замяло яшчэ жывога, дзяцюк падняў, занёс на печ, каб адышоў, але пад раніцу ён памёр.

"Мы так жалелі яго, так жалелі. **Лапцейкі** новыя сплялі і ў лапцейках пахавалі на кладбішчах, дзе ўсіх камунараў хавалі".

Так расказваў Пархуце дзед Арцёменка, удзельнік грамадзянскай, фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў, колішні камунар.

Лапцейкі захацелася падкрэсліць, з думкай пра чалавечны падтэкст.

●

Швед Вільгельм Мобэрт, "Эмігранты", зноў жа па-польску.

Палякі выдалі толькі першую кнігу гэтай тэтралогіі, тое, дзе шведская вёска мінулага стагоддзя і марское падарожжа сялян у Амерыку. Можа, пакуль што толькі першую, а можа, і так, як у іх атрымалася з Мележам: выдалі толькі "Людзей на балоце". Так думаю цяпер, пішучы, а чытаючы ўспамінаў Іванаву першую кнігу "Палескай хронікі", якая сваёй таленавітай грунтоўнасцю, душэўнай насычанасцю належна расказвае сусветнаму чытачу пра нашу часціну бязмежнага свету так, як і трэба гаварыць ад кожнага народа, ад кожнай краіны, робячы тое, што самае галоўнае — "садзейнічаць умацаванню чалавечай агульнасці, умацаванню міру і дружбы", як я днямі чуў, працытаванае з Талстога.

●

Другі том з трохтомніка Багдановіча, яго проза, пераважна руская. Успаміналася руская проза Шаўчэнкі. Тое самае, што і над старонкамі нашага першага Максіма, пытанне: а ці поўнасцю гэта ягоны, толькі ягоны голас?.. І ў нашым, і ва ўкраінскім выпадку пра рускамоўнае можна сказаць, што яно — толькі тое, што **пры галоўным**.

І не перастаеш здзіўляцца, які ён ранні ў сваёй таленавітасці і эрудыцыі.

Чытаючы ягонае пра Шаўчэнку, успамінаў Максіма Рыльскага, як ён, і ў сваім напісаным, і ў гутарцы са мною, высока ставіў гэтыя артыкулы. А там, дзе ён пра Валадзімера Самійленку, я ўспомніў свой салдацка-нявольніцкі блакнот з вершам і гэтага паэта, выпісаным ужо не прыпомню адкуль. Бо толькі пад упісанай у той патаемны блакнот /простым алоўкам/ цудоўнай малітвы палонных запарожцаў: "Ой, визволи, Боже, нас, бідних невольників" памечана: "Грушевский, "Ілюстрована Історія України". З Самійленкам памяць мяне падвяла: верш "Я не боюсь тюрми и каты" належыць не яму, а нейкаму О. Я. Верниволоду, якога ў маім украінскім энцыклапедычным слоўніку, на жаль, няма. А Самійленкава, згадаўшы далёка-першае светлае ўражанне, ажно выпісаць хочацца, хоць толькі першую і апошнюю строфы.

**Бачив я усяки перли**
**і коштовні самоцвіти,**
**але есть одна перлина,**
**що з усіх найкраща в сьвіти.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Відібрыть її не зможе**
**ніяка злоба несита,**
**есть вона — сльоза сьвятая,**
**за нещасний люд пролита.**

На колькі тут у мяне ўсё па-ўкраінску — не магу сказаць, перапісваю, як было калісьці выпісана аднекуль. І сапраўды **калісьці**, бо ў верасні 1940 года, перад адпраўкай са шталага на поўначы ў шталаг на поўдні "Вяліканямеччыны".

А пра шчасце выпадковасцей, пра шляхі і сустрэчы з агульным у сапраўдным

Барыс САЧАНКА

# УЧАРАШНЯЕ І СЁННЯШНЯЕ



●

Быццам і нямала напісана і сказана пра жахлівыя сталінскія часы, рэпрэсіі і гулагі, расстрэленых і недастрэленых. І ўсё ж напісана і сказана далёка не ўсё. Вось выйшла новае выданне анталогіі беларускай паэзіі. Першы том яе заканчваецца творамі Міхася Ганчарыка і Міхайлы Грамыкі, аўтарамі, якія былі, як паведамляецца ў адной з біяграфічных даведак, «беспадстаўна абвінавачаны ў т. зв. нацдэмаўшчыне» і высланы за межы БССР. Другі том адкрываецца Міхасём Чаротам, які быў у «1937 г. асуджаны». А там і пайшлі адзін за адным «расстрэленыя» і «недастрэленыя» — Макар Краўцоў, Уладзімір Жылка, Уладзімір Дубоўка, Нічыпар Чарнушэвіч, Язэп Пушча, Анатоль Вольны, Тодар Кляшторны, Наталля Арсеннева, Мікола Хведаровіч, Алесь Дудар, Уладзімір Хадыка, Алесь Вечар, Юрка Гаўрук, Янка Бобрык, Янка Туміловіч, Андрэй Александровіч... Усіх не пералічыш — можна называць і называць... Дык гэта ж імёны вядомых паэтаў! А колькі было знішчана маладых, тых, хто толькі-толькі пачынаў тварыць, надрукаваў ці не паспеў надрукаваць першыя свае вершы і, вядома ж, не трапіў у гэтую анталогію.

Такі самы сумны пералік «расстрэленых» і «недастрэленых» быў бы, калі б выдаваліся анталогіі прозы, крытыкі, драматургіі ды і любога іншага жанру літаратуры... І ў галаву міжвольна зноў і зноў прыходзяць бессмяротныя радкі з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка»:

**Колькі талентаў звялося,**
**Колькі іх і дзе ляжыць**
**Невядомых, непрызнаных,**
**Неаплаканых нікім,**
**Толькі ў полі адспяваных**
**Ветру посвістам пустым!**

А яшчэ ж і цяпер знаходзяцца такія, у каго паварочваецца язык гаварыць, нібыта самі беларусы адмовіліся ад сваёй мовы... Ды нас жа стагоддзямі адвучвалі ад яе, галовы адсякалі тым, хто не выракаўся ўсяго роднага, хацеў шчыра служыць Бацькаўшчыне, народу...

●

Старшыня Беларускага саюза савецкіх пісьменнікаў М. Клімковіч, выступаючы ў Маскве на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў /жнівень, 1934 г./, гаварыў, што «нацыяналісты з «Узвышша», «создавая эту организацию, бахвалились, что «Узвышша» — это такой Парнас белорусской литературы, который «увидят века и народы». Парнас оказался настолько низким качественно и мизерным количественно, да к тому ж настолько покрыт был националистическими окопчиками, что скрыть его до основания после проведенного партией генерального обстрела всех позиций националистов большого труда не составляло. К чести левого крыла «узвышенцев» /Крапива, Чорный, Глебка/ надо сказать, что они помогли БелАПП проделать эту операцию».

«Аперацыя» праводзілася на працягу некалькіх гадоў паслядоўна, мэтанакіравана. І сляды яе /вядома, не ўсе/ знайшлі адлюстраванне на старонках друку тых часоў, у тым ліку і ў органе самога літаратурна-мастацкага згуртавання часопісе «Узвышша». Ужо ў першым нумары за 1930 год друкуецца артыкул «Пралетарскім шляхам» /ім пачынаецца часопіс/, у якім сцвярджаецца, што «гэты нумар з'яўляецца ў пэўнай меры пераломным нумарам, што азначае і пералом у працы ўсяго згуртавання. Пералом гэты наспяваў паступова», «гэты пералом — з'ява зусім заканамерная» і абумоўлены ён гістарычным этапам, на якім знаходзілася ў той момант «пралетарская рэвалюцыя па шляху да сацыялізму» і «клясавай прыродай саміх сяброў згуртавання «Узвышша». Расказаўшы чытачам пра поспехі «пралетарскай рэвалюцыі па шляху да сацыялізму», «клясавае змаганне, якое ўпарта вядзецца ва ўсіх галінах грамадскага жыцця», неаднароднасць паходжання беларускіх пісьменнікаў /«большасць іх — выхадцы з бядняцкіх і серадняцкіх слаёў сялянства»/, асудзіўшы «нашаніўскія традыцыі» старэйшага пакалення пісьменнікаў з іх ідэаламі «самастойнай, незалежнай дзяржавы, з іх імкненнямі больш назад, як наперад, да часоў Вялікага княства Літоўскага, з іх ідэалізацыяй «залатога веку» ў развіцці беларускай культуры /часы Скарыны/, аўтары /ці аўтар?/ пераходзяць да крытыкі тэорыі і практыкі працы самога згуртавання, творчасці яго членаў. Як пэўны вынік перагляду «свайго шляху», выкрыцця «сваіх памылак і карэнняў», належных ацэнак «гэтых памылак і асуджэнні іх перад грамадствам», падаецца пастанова згуртавання, у якой прызнаецца, што «яно дапусціла шэраг палітычных памылак, публічна іх не крытыкавала, што аб'ектыўна адхіляла ад правільнай лініі». Якія ж канкрэтна былі зроблены «Узвышшам» памылкі? Яны прааналізаваны ў пастанове, і спыняцца на іх не варта, бо калі паглядзець на іх з пазіцый сённяшняга дня, дык гэта ніякія не памылкі, а хутчэй дасягненні ці выдаткі творчасці, росту маладых талентаў.

З гэтага нумара /1, 1930 г./ з часопіса знікаюць адзін за адным іх пастаянныя сталыя аўтары, многія з іх арыштоўваюцца і высылаюцца ў Сібір. З'яўляюцца на старонках «Узвышша» новыя імёны, што нясуць у сваіх творах «пралетарскі змест», а некаторыя з тых, хто раней радаваў чытачоў, станавіліся ў «шэрагі пралетарыяту» і «шляхам свае творчасці актыўна змагаліся з ворагамі пралетарыяту». Сярод апошніх былі Крапіва, Чорны і Глебка — тыя, што «помогли БелАПП проделать эту операцию», гэта значыць, ліквідаваць згуртаванне. Калі К. Чорны ўносіў «пралетарскі змест» у свае мастацкія творы і тым самым быццам нікому асабліва не шкодзіў, акрамя хіба самому сабе, дык, робячы тое самае, К. Крапіва і П. Глебка яшчэ ўзяліся і за напісанне крытычных артыкулаў, у якіх не толькі паспрабавалі абяліць сябе, але і адрачыся ад былых сваіх сяброў і паплечнікаў — У. Дубоўкі, Я. Пушчы, А. Бабарэкі, асудзіць, выкрыць як заклятых і закаранелых ворагаў. Так, у артыкуле «Узвышша» на новым шляху» /«Узвышша», N 1, 1931 г./ К. Крапіва пісаў: «Падзеі мінулага году паказалі, што і памылкі «Узвышша» не былі ў значнай сваёй часткі ўласна памылкамі, а свядомым правядзеннем нацыянал-дэмакратычнай часткай «Узвышша» пэўнай нацыянал-дэмакратычнай лініі... Раскрыццё органамі АДПУ контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі было моцным штуршком, дзякуючы якому згуртаванне «Узвышша» канчаткова вызвалілася з-пад уплыву ўзвышанскіх нацыянал-дэмакратаў, канчаткова адмежавалася і рашуча асудзіла контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм і нацыянал-дэмакратычную лінію, якую праводзіла правая частка «Узвышша». На гэтым К. Крапіва не спыніўся, ён пайшоў далей, выклаў цэлую праграму, як, на яго думку, павінна б было весціся наступленне на былое «Узвышша»: «Каб зрабіць рашучы крок па шляху да пралетарскай літаратуры, ачышчанаму ад контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, літаратурнаму згуртаванню «Узвышша» патрэбна грунтоўна разгледзець і ацаніць як тыя прынцыпы, якія былі паложаны ў аснову працы старога «Узвышша», так і тыя факты літаратурна-мастацкай публіцыстычнай творчасці, якія з'яўляюцца фактамі правядзення ў жыццё нацыянал-дэмакратычнай лініі». І сам даў прыклад, як гэта трэба рабіць, разабраўшы «нацыянал-дэмакратычную сутнасць «Тэзісаў», на грунце якіх утварылася «Узвышша» і якія «замянялі сабою палітычную і мастацка-творчую платформу, на грунце якое «Узвышша» развівала сваю чыннасць». К. Крапіва выказаў незадаволенасць пастановай, якая была надрукавана ва «Узвышшы» год назад, палічыў, што «факты шкоднай для пралетарыяту творчасці ахарактарызаваны і асуджаны ў пастанове нядосыць рашуча» і даў свае ацэнкі і асуджэнне творчасці У. Дубоўкі, Я. Пушчы, А. Бабарэкі... Падключыў ён і новыя творы і імёны, напрыклад, «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, дзе «аўтар замест таго, каб накіроўваць гастрыё сатыры на тыя ненармальныя з'явы ў нашай сапраўднасці, якія перашкаджаюць нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву, высмейвае працу савецкіх установ і арганізацый цалкам і гэтым у пэўнай меры салідарызуецца з тымі паклёпамі, якія ўзводзяць на савецкую ўладу ворагі дыктатуры пралетарыяту». К. Крапіва жорстка крытыкуе і рэдакцыйны артыкул «Пралетарскім шляхам» /«Узвышша», N 1, 1930/, бо ў ім, на думку пісьменніка, «памылковым» з'яўляецца, па-першае, сцвярджэнне, што ўсе члены згуртавання «Узвышша» ў пачатку сваёй творчасці «сталі на рэвалюцыйны шлях», і яшчэ больш памылковым з'яўляецца сцвярджэнне, што члены згуртавання «Узвышша» «не сыходзілі з ранейшай рэвалюцыйнай пазіцыі. Гэтыя сцвярджэнні сведчаць аб нерашучасці рэдакцыі ў ацэнцы творчасці членаў «Узвышша», аб тым, што самакрытыка яшчэ не пастаўлена была на належную вышыню, аб імкненні ў той ці іншай меры стушаваць адмоўныя моманты ў працы згуртавання, прыкрыць тую дыферэнцыяцыю, якая ў той час адбывалася ва «Узвышшы».

Яшчэ больш рашуча выступіў супраць самога згуртавання «Узвышша» і ўсіх былых сваіх сяброў і паплечнікаў П. Глебка. У вялікім артыкуле «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай /Пра літаратуразнаўчую працу Бабарэкі/», які быў змешчаны ў двух нумарах часопіса /«Узвышша, N 2 і N 3, 1931 г./, аўтар даў негатыўную ацэнку не толькі творчасці А. Бабарэкі, а фактычна зрабіў перагляд творчасці ўсіх беларускіх пісьменнікаў як паслярэвалюцыйных, так і дарэвалюцыйных, не пашкадаваўшы нікога, усім прыпісаў самыя розныя грахі і правіннасці — К. Тураўскаму, Ф. Скарыне, Дуніну-Марцінкевічу, Ф. Багушэвічу, М. Багдановічу, А. Гаруну, Ядвігіну Ш. і г. д. Асаблівая ўвага, вядома ж, удзелена была «узвышэнцам» — У. Дубоўку, Я. Пушчу, А. Бабарэку... Закончыў свой артыкул П. Глебка такім вывадам: «Нацыянал-дэмакратызму ва ўсіх галінах грамадскага жыцця, у тым ліку ў літаратуры нанесены моцны ўдар, але ж дарэшты нацыянал-дэмакратызм яшчэ не знішчаны, карэнні яго не выдраны. Адгэтуль задача — не паслабляць змагання з нацыянал-дэмакратызмам як у грамадскім жыцці, так і ў літаратуры. Канкрэтна перад марксісцкай крытыкай стаіць задача — узяць пад бязлітасны агонь нацыянал-дэмакратычныя падручнікі па літаратуры, паасобныя працы і артыкулы, бо аж дагэтуль на гэты вучастак літаратурнага фронту найменш было накіравана агню пралетарскай крытыкі».

Такі агонь неўзабаве быў «накіраваны» — Бэндэ, А. Кучарам, М. Аляхновічам, А. Канакоціным і іншымі ім падобнымі. Не толькі на крытыку, а на ўсю беларускую літаратуру, культуру, навуку, мастацтва. Ён, гэты агонь, вёўся бязлітасна, шалёна да самых апошніх часоў. Ды і цяпер вядзецца некаторымі аўтарамі, а то і пэўнымі органамі друку...

●

Тыя, хто будзе даследаваць літаратурны працэс 20—30-х ды і пазнейшых гадоў, не павінны абысці маўчаннем можа быць і не надта прыкметны, але па-свойму цікавы факт — ліст Максіма Гарэцкага ў рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь» ад 4 красавіка 1928 г. Вось яго поўны тэкст:

*«Паважаны т. рэдактар!*

*У N 5 «Літаратурнага дадатку» да «Савецкай Беларусі» /31 сакавіка 1928 г./ надрукавана ў хроніцы нататка аб артыкуле нейкага М. Г. у украінскай газеце «Діло». Нататка гэтая напісана так, што неасвядомленыя чытачы могуць падумаць, быццам у ліку беларускіх пісьменнікаў, якіх аўтар артыкула ставіць «на адну дошку з Янкам Купалам і Якубам Коласам», ёсць гэткія «мяшчане ў літаратуры», што даюць некаму весткі аб беларускай літаратуры, карысныя толькі дзеля іх персанальна, або нават у сваіх крытычных артыкулах самі сябе хваляць. Дык прашу надрукаваць у адным з бліжэйшых нумароў «Савецкай Беларусі», што ў жыцці паказаных пісьменнікаў і наогул у вядомай гісторыі беларускае літаратуры і крытыкі ніколі нічога падобнага не было, і я пэўны, што не будзе, а калі апошнім часам у беларускіх літаратурных спрэчках здараліся выпадкі несумленнага хавання пад псеўданімы ці нават ніколі даўней не чутага свядомага карыстання чужымі ініцыяламі, дык гэта былі толькі дробныя, сапраўды мяшчанскія выбрыкі, якіх, пры належнай увазе з боку рэдактараў, напэўна больш не будзе. Не чытаўшы артыкула М. Г., цяжка сказаць, ці ёсць тут правакацыя ў адносінах да майго імя, але мушу заявіць, што абсалютна нічога супольнага з гэтым М. Г. я, вядома, не маю.*

*Мімаходам, яшчэ адна папраўка. У N 78 «Савецкае Беларусі» /1 красавіка 1928 г./ напісана, што знойдзены дакументы, быццам паэма «Тарас на Парнасе» з'яўляецца творам нейкага Арцёма Вярыгі-Дарэўскага». З кнігі акад. Е. Ф. Карскага «Белорусы» том III, частка III, і з маёй «Гісторыі беларускае літаратуры» відаць, што гэты «нейкі» ёсць вядомым беларускім пісьменнікам 19-га веку.*

*Прашу іншыя газеты і журналы перадрукаваць.*

*Максім Гарэцкі.*

*4.IV.1928 г.*

*Горкі».*

На ліст Максіма Гарэцкага своеасабліва прарэагавала Аршанская філія «Маладняка». У выпісцы з пратакола яе агульнага сходу ад 10 красавіка 1928 г., што была змешчана ў часопісе «Аршанскі маладняк» /N 7/, гаварылася:

*Слухалі: Аб літаратурным дадатку да «Савецкай Беларусі» N 5.*

*Пастанавілі: Перадрукаваць ліст Максіма Гарэцкага, змешчаны ў газеце «Сав. Беларусь» ад 7 красавіка 1928.*

*Лічыць неабходным рашуча звярнуць увагу пралетарскага грамадства на тыя злосніцкія ананімныя інсінуацыі, якія часам дапушчаюцца на старонках нашае прэсы.*

*Пара скончыць абзываць пісьменнікаў «мяшчанамі, борзапісцамі, контррэвалюцыянерамі» і т. д. з мэтаю ўтаптаць іх у гразь дзеля персанальнае альбо гуртавое выгады.*

*Трэба змагацца не лаянкай, а аб'ектыўнымі доказамі, адкрыўшы твар перад масай, а не ляклiва схаваўшыся за чужую спіну альбо за псеўданім.*

*Аршанская філія «Маладняка».*

●

Некалькі разоў звярталіся да мяне напісаць успаміны пра Уладзіміра Дубоўку. Хоць быццам і сустракаліся мы з ім часта, вялі самыя розныя шчырыя размовы і адзін на адзін і на людзях, а ўсё ж для ўспамінаў гэтага мала. Чуў я Уладзіміра Дубоўку на адным з абмеркаванняў у Саюзе пісьменнікаў, калі ён павучаў даследчыцу роднай літаратуры, якая яму, Дубоўку, прыпісала ў сваёй працы такія грахі, якіх і следчыя ГПУ яму не прад'яўлялі. Колькі з'едлівасці, падкусу было ў яго словах, якая пры гэтым была праяўлена выхаванасць, культура! Чытаў я і судовую справу гэтага аднаго з лепшых нашых паэтаў 20—30-х гадоў, яго пісьмовыя паказанні... Ні слова дрэннага пра сябе, сваю творчасць, ні слова нагавору ці абразы пра каго б там ні было са сваіх сяброў. Быццам не ў трыццаць першым годзе тое пісалася, а сёння, у нашыя посткамуністычныя часы. Ды калі б паводзілі сябе так усе беларускія пісьменнікі, супрацоўнікам ГПУ не было б чаго рабіць, не было б каго арыштоўваць і судзіць...

Шчыры, сумленны быў паэт і чалавек Уладзімір Дубоўка! І ані не цярпеў маны, пралаз, людзей ілжывых і хцівых, тых, хто на няшчасці іншых будаваў сваё шчасце, славу. Пра гэта сведчыць і верш, напісаны Уладзімірам Дубоўкам за паўгода да сваёй смерці і прысвечаны аднаму нашаму паэту:

**Падобны з твару да машчэй,**
**А па душы даўно нябожчык,**
**Ты жыў яшчэ, стары кашчэй,**
**Усё мінаеш хату з дошчак.**

**Жывеш і сохнеш — мільянер!**
**Адхватчык прэміяў і лаўраў,**
**Абы накалупаўся верш,**
**Адразу ладзіш гром літаўраў.**

**Да славы рупны чалавек,**
**Гадуеш крытыкаў прысенак:**

*(Працяг на стар. 14-15)*

